# Да міжнароднага антываеннага кангрэсу моладзі.

Парыскі антываенны камітэт, вылучаны антываенным Амстэрдамскім Кангрэсам, склікае ўлетку 1933 году сусьветны антываенны кангрэс моладзі.

Антываенны кангрэс моладзі будзе мець асаблівае значэньне, бо ў справе падрыхтоўкі вайны буржуазія, фашызм і яго сацыял - і нацыянал - фашыстоўскія памоцнікі канцэнтруюць сваю ўвагу і сеткі на моладзь. Уся моладзь усё больш мілітарызуецца. У школах, «Стральцах» і «Гуфцах», спартыўных клюбах і пажарных камандах, на чыгунцы і на прадпрыемствах—усюды фашызм гвалтам і ашуканствам праводзіць ваенізацыю моладзі, атручвае ядам шовінізму.

Ваенныя падрыхтоўкі ўжо цяпер увялічваюць наш голад, беспрацоўе і нэнзу. Палявыя суды, сьмяротныя прысуды, жорсткі белы тэрар, пацыфікацыя, ваенныя суды ў арміі і ваеннай прамысловасьці — усё гэта урад фашыстоўскі Пілсудзкага праводзіць для душэньня рэвалюцыйнага руху мас, каб «забясьпечыць» сябе ў часе вайны, каб кінуць нас, моладзь у першую чаргу рэзаць, зьбіваць адзін другога, ваяваць супроць гераічнай рабоча-сялянскай Чырвонай арміі, супроць нашай міжнароднай сацыялістычнай бацькаўшчыны — краіны сацыялізму.

Ці можам мы дапусьціць да гэтага?— Не, нельга!

Арганізуйце ўсюды антываенныя масоўкі, прымайце рэзалюцыі пратэсту супроць імпэрыялістычнай вайны, у абарону Савецкага Саюзу, абірайце антываенныя камітэты адзінага фронту, дэлегатаў да сусьветнага кангрэсу моладзі. Ладзьце антываенныя зьлёты і дэманстрацыі! Масавымі выступленьнямі будзем зрываць ваенныя падрыхтоўкі польскага фашызму, на кожным яго кроку, будзем змагацца супроць мілітарызацыі моладзі ў школах, на прадпрыемствах і ў вёсках, супроць «Стральца», «Гуфца» і т. д. Не плаціць ваеннага падатку, ані граша ураду **вайны**, голаду і шыбеніц! Ганіце вон банды пацыфікацыі акупантаў, якія «успакойваюць» **нашы** землі **для ваенных мэтаў**. Масава выступайце супроць шарваркаў і ваеннай панщчыны.

Працоўная моладзь, што яшчэ верыць ТУР'аўскім і цукунфтоўскім правадырам, працоўная моладзь, што яшчэ знаходзіцца ў «Стральцы» і іншых буржуазных і рэлігійных арганізацыях моладзі! Вы таксама ня хочаце вайны імпэрыялістычнай, вайны супроць краіны Саветаў! Цяжары падрыхтоўкі вайны прыгнятаюць у роўнай меры ўсю працоўную моладзь. Створым-жа супольна са ўсёй рабочай і сялянскай моладзьдзю адзіны фронт супроць вайны! У адозве міжнароднага антываеннага камітэту чытаем, што на кангрэс запрашаюцца кожная арганізацыя моладзі, якая хоча барацьбы супроць імпэрыялістычнай вайны. Абірайце дэлегатаў, якія аддана змагаюцца супроць вайны.

У барацьбе вы самі пераканаецеся, што правадыры сацыял-фашыстоўскіх і нацыянал-фашыстоўскіх арганізацый моладзі, правадыры іншых буржуазных арганізацый на словах толькі гавораць аб міры, супроць вайны, на справе-ж яны таксама рыхтуюць вайну супроць СССР.

Рэкруты і салдаты! Хаця сьценамі кашар і жандармамі аддзяляюць вас ад вашых братоў і сясьцёр, вы павінны далучыцца ў антываеннай барацьбе ўсёй працоўнай моладзі да сусьветнага антываеннага кангрэсу. На рэкруцкіх провадах і салдацкіх масоўках абірайце сваіх дэлегатаў, сваі антываенныя камітэты, змагайцеся за свае рэкруцкія і салдацкія патрабаваньні, выступайце супроць ўціску і зьдзекаў афіцэрства. Братайцеся разам са змагаючыміся масамі.

Няхай на кангрэсе, дзе сабяруцца прадстаўнікі моладзі ўсіх частак сьвету і ўсіх краёў — далучыцца магутны голас рабоча - сялянскай моладзі нашай паняволянай ЗБ, каб мы маглі рэвалюцыйным чынам запэўняць моладзь іншых краёў, што не дапусьцім да пертварэньня Заходняй Беларусі ў пляцдарм імпэрыялістычнай вайны, што зброя, скіравана супроць Савецкага Саюзу, будзе накіравана супроць панаваньня буржуяў і абшарнікаў, супроць фашызму, супроць бела-польскай акупацыі!

## ПАЎСТАНЬНЕ НА ГАЛЯНЦКІМ БРАНЯНОСЦЫ.

На працягу 5 дзён—ад 5 да 10 лютага, працягвалася паўстаньне на адным з найбольшых браняносцаў Галяндыі.

«Дэ-цевен-провінцыен» у берагоў галянцкай калёніі—Індaнэзіі. Непасрэднай прычынай паўстаньня было абніжэньне жолду матросам.

Індaнэзія гэта багатая галянцкая калёнія, якая эксплёатуецца галянцкай буржуазіяй. У Індaнэзіі жыве шмат народаў і галянцкая акупацыя нацкоўвае адну нацыю супроць другой, каб тым лягчэй утрымаць свае панаваньне. Паўстаньне на браняносцы «Дэ-цевен-провінцыен» было доказам растучай нацыянальнай **салідарнасьці** прыгнечаных у іх барацьбе з супольным прыгнетацелем— галянцкім акупантам. Каманда браняносцу, што складаецца з розных нацыянальнасьцяй, а таксама салдаты—галяндцы, супольна змагаліся плячо ў плячо.

Паўстаньне на браняносцы «Дэ-цевен провінцыен» было задушана пасьля доўгай бамбардыроўкі з аэрапланаў і ўрадавых крэйсэраў. 18 матросаў забіта, 25 паранена.

Паўстаньне на галянцкім браняносцы сьведчыць, што расьце клясавая салідарнасьць працуючых салдат і матросаў бяз розьніцы нацыянальнай, у барацьбе з імпэрыялізмам.

# КАРЛ МАРКС.

**(Да 50-тай гадавіны яго сьмерці)**

14 сакавіка мінае 50 год з дня сьмерці выдатнейшага правадыра і тэорэтыка рабочае клясы — **КАРЛА МАРКСА** (нарадзіўся 5 мая 1818 г., памёр 14 сакавіка 1883 г.).

У дзень сьмерці Маркса **Энгельс** пісаў **Лібкнехту:**

«Вы напэўна ведаеце, якую страшэнную згубу панесла эўрапейская сацыялістычна-рэвалюцыйная партыя ...Найвалікшы мозг другой паловы нашага веку перестаў мысьліць... Ня гледзячы натое, што сёньня ўвечары я бачыў, як ён нярухома ляжыць на ложку з тварам застылым на векі, я ўсё-жа не магу сабе ўявіць, што гэты геніяльны мозг перестаў узбагачваць свaей магутнай думкаю пралетарскі рух абедзьвух паловак зямное кулі. Яму мы абавязаны ўсім тым, чым мы сталі; і ўвесь сучасны рух тым, чым ён зьяўляецца цяпер, стаў дзякуючы яго тэорэтычнай і практычнай дзейнасьцю; бяз яго мы дагэтуль блукалі яшчэ ў пацёмках».

Гэтыя словы Энгельса цалкам стасуюцца і да даты 21 студзеня 1924 г., калі перастаў мысьліць найвялікшы мозг XX стагодзьдзя, калі сусьветны камуністычны рух зноў панес страшэнную страту, калі памёр **У. І. ЛЕНІН**.

Маркс выказаў, што **пралетарская рэвалюцыя, дыктатура пралетарыяту і сацыялізм** гэта зусім не фантазія. Маркс выказаў, што яны зьяўляюцца няўнікнёнымі, што яны будуць дзелам рабочае клясы, якая няшчадна эксплёатуецца і нічога ня маючы пры капіталізьме мусіць так доўга весьці зацятую **клясавую барацьбу**, пакуль нарэшце скіне панаваньне капіталістаў і ўсіх эксплёататараў. Сацыялізм будзе ўстаноўлен не



шляхам усеагульнага галасаваньня, не шляхам выборчай карткі, а **шляхам узбройнага паўстаньня і дыктатуры пралетарыяту**, які стаіць на чале барацьбы працоўнага сялянства, паняволяных народаў і ўсіх прыгнечаных.

Рэвалюцыйная навука Маркса ўсюды зьненавіджана з боку капіталістаў і абшарнікаў. З навукаю Маркса нічога супольнага ня маюць пепеэсаўскія і бундаўскія правадыры, якія для больш лёгкага ашукваньня мас называюць самі сабе «сацыялістамі» і «марксыстамі». Бо яны ламаюць барацьбу паняволяных і эксплёатаваных, бо ўсякімі сіламі стараюцца не дапусьціць да пралетарскай рэвалюцыі, бо яны зьяўляюцца зацятымі ворагамі дыктатуры пралетарыяту і адзінай рабочай дзяржавы — СССР.

На грунце навукі Маркса сёньня стаяць толькі камуністычныя партыі, якія злучаюцца ў адну вялікую міжнародную арганізацыю — III Інтэрнацыянал. Тварэц III Інтэрнацыяналу, правадыр слаўнай партыі бальшавікоў—Ленін, кіруючыся тэорыяй Маркса і разьвіваючы яе далей, прывёў рабочых і сялян Расіі да пераможнай пралетарскай рэвалюцыі на абшарах былой царскай расійскай імпэрыі. На падставе навукі Маркса — Леніна ідзе ў СССР пераможнае будаўніцтва сацыялізму і нядаўна была закончана першая пяцігодка, расьце камуністычны рух ва усім сьвеце. Усё гэта найлепей сьведчыць аб правільнасьці навукі Маркса—Леніна.

Тэорыя Маркса — Леніна, марксызм— ленінізм паказвае рабочым і сялянам шлях да перамогі. І дзеля таго кожны малады рабочы, батрак і малады працоўны селянін павінен у штодзеннай барацьбе, у арганізацыях і гуртках вывучаць марксызм-ленінізм, каб ён мог лепей працягваць і давесьці да канца агалошанае і пачатае Марксам — Леніным дзела — дзела пралетарскай рэвалюцыі.

# Новыя памагатары акупантаў.

У студзені 1933 г. новая нацыянал-фашыстоўская групоўка моладзі выдала орган «Золак», называюць яго органам «маладой беларускай сацыялістычнай думкі». Ужо ня проста беларуская або нацыянальная, як яны дагэтуль зваліся, але нават «сацыялістычная думка».

Хто яны такія, гэтыя новыя «сацыялісты» і «дэмакраты», навошта яны арганізаваліся, як паасобная групоўка?

Вось што рэдакцыя сама заяўляе аб прычынах свайго паяўленьні на сьвет:

«тыя-ж правадыры, што стаялі на чале народных арганізацый (чытай, нацыянал-фашысты) не адпавядалі свайму прызначэньню... Народ ашукаўся ў сваіх правадырох... Усеагульнае разачараваньне і недавер'е».

Вось як, хоць з выкрутасамі, выбалтвае праўду сам «Золак». Народныя масы, нават тыя, што верылі, ня вераць ужо нац.-фашыстоўскім правадырам, і таму

«ня трэба перайマць мэтадаў грамадзкай працы нашых старых правадыроў». (Золак»).

Узрастае рэвалюцыйны рух моладзі пад сьцягамі камсамолу. Неабходна дзеля гэтага нацыянал-фашыстам стасаваць новыя мэтады ашуканства і здрады моладзі. Трэба «пераапрануцца», надзець новую маску абаронцаў працоўных мас. Вось што ў сапраўднасьці абудзіла да жыцьця новы сацыял-фашыстоўскі твор.

Маладзёжныя нацыянал-фашысты ўжо пераганяюць сваіх старых вучыцеляў Луцкевічаў, Астроўскіх і Станкевічаў. Лаюць іх за апартунізм, высказваюцца супроць угоды і дэклямуюць нават аб сацыялізьме. Сёньня, калі працоўныя масы ідуць за пралетарыятам, у барацьбе за рэвалюцыю, за сацыялізм, дык і яны сябе завуць сацыялістамі. Але шыла вылазіць з мяшка, тут-жа відаць, што фальшыва, хаця пекна пяюць аб сацыялізьме для таго, каб наваліцца супроць

«бальшавіцкага чыньніка, які вярбуе сілы для абароны СССР, супроць маскоўскага чырвонага імпэрыялізму» («Золак» № 1).

На вуснах яны за працоўных масы, а на справе змагаюцца разам з усёй буржуазіяй і іх прыхвостнямі, супроць рэвалюцыйнай барацьбы працоўнай моладзі. кіраванай Кампартыяй і Камсамолам. На словах яны за сацыялізм, а на справе яны змагаюцца супроць адзінай краіны сацыялізму, супроць СССР. Называючы сябе беларускімі «сацыялістамі», нашы сапраўдныя нацыянал-фашысты такім чынам больш вышукана прымаюць удзел у той кампаніі хлусьні і падрыхтоўкі вайны супроць Савецкага Саюзу.

«У аснову нашага сацыялістычнага сьветапагляду — кажуць аўтары — кладзём... засаду палітычнай дэмакратыі».

Гэта зьяўляецца старая песенька буржуазных і асабліва сацыял-фашыстоўскіх партый. Дэмакратыя аб каторай яны гавораць зьяўляецца на справе дэмакратыяй буржуазнай, дэмакратыяй для багатых: улада, фабрыкі і зямля фабрыкантам і абшарнікам, а дыктатура, уціск, эксплёатацыя і паняволеньне для рабочых і сялян. І Пілсудзкі называў сабе дэмакратам і нават сацыялістам, а расстрэльваў рабочых і сялян, павёў марш на Кіеў, акупаваў Заходнюю Беларусь і Заходнюю Ўкраіну. Пад шыльдай дэмакратыі прыкрыў дыктатуру буржуазіі. А калі рэвалюцыйны рух супроць буржуазнай дэмакратыі нарастаў—Пілсудзкі і ўсе «дэмакраты» і «сацыялісты» перайшлі да адкрытай фашыстоўскай дыктатуры буржуазіі. Сацыял-фашысты і ўсялякага роду нацыянал-фашысты, як з «Золака» і іншай сволачы дапамагаюць і прыкрываюць гэтую фашыстоўскую дыктатуру фразамі аб «дэмакратыі».

Горш усяго баяцца «сацыялістычныя думкі» дыктатуры пралетарыяту, «якая заснавана (па іхнаму) на сыстэме прымусу і гвалту». Нядзіўна, што баяцца. Бо пры дыктатуры пралетарыяту, пры ўрадзе рабочых і сялян маем гвалт з боку большасьці народу ў адносінах да буржуазіі, да кулакоў, контррэвалюцыі. Сапраўдная дэмакратыя існуе толькі пры дыктатуры пралетарыяту, дзе ўлада, фабрыкі, зямля належаць працоўнаму народу.

Для таго, каб іх не пазналі, хто яны на дзеле, каб не пазналі рожу кулацкага сынка, распаўсюджываюць сярод моладзі погляд, што беларускі народ адрозьніваецца ад усіх іншых народаў на сьвеце, што ў беларускім народзе няма клясаў, няма багатых і таму не павінна быць клясавай барацьбы. Яны так і пішуць:

«беларускі народ ня мае сваіх вышэйшых клясаў, свайго абшарніцтва і буржуазіі».

Навошта яны распаўсюджываюць такую думку? Для таго, каб адцягнуць працоўную моладзь ад барацьбы супроць багатых, супроць сваіх эксплёататараў і ўраду, каб падпарадкаваць, трымаць моладзь у палоне буржуазіі. Кожны кулак багацей у вёсцы для лепшага аграбленьня батракоў і беднаты, корчыць з сябе, што ён таксама працоўны. Але батрацкая, рабочая і сялянская моладзь у горадзе і вёсцы бачаць і ведаюць сваіх крывасмоктаў, разам з польскімі панамі і беларускіх багацеяў—кулакоў, беларускую буржуазію, якая дапамагае акупанцкаму ўраду Пілсудзкага прыгнятаць беларускі народ. Для таго, каб вызваліцца ад фашыстоўскай польскай акупацыі, каб змагацца за самавызначэньне Заходняй Беларусі аж да аддзяленьня, трэба змагацца і супроць агентаў акупацыі, супроць беларускіх нацыянал-фашыстаў, супроць беларускай буржуазіі.

## ТБШ, А НЕ ТБА.

Хітрыя нашыя нац.-фашысты. Скампрамэнтаваліся Луцкевічы і Астроўскія перад масамі. Усё новыя спосабы ашуканства мас шукаюць. Апошняя з іх пaпросту ашуканча - жульніцкія. Існуе нацыянальна - вызваленчая культурная арганізацыя ТБШ з шырокай сеткай гурткоў па ўсёй ЗБ, у якіх актыўны ўдзел прымае працоўная моладзь. Дык вось атаку на ТБШ прадпрынялі і фашыстоўскі ўрад і яго нац.-фашыстоўскія агенты. Ваяводы і старосты арыштамі і пагрозамі звонку і знутры хочуць сабе падпарадкаваць гэтую арганізацыю. Нядаўна адбыўся працэс над прадстаўнікамі ТБШ: Стэцкевіч, Скурко і інш. Некаторыя атрымалі па 2—3 гады турмы. Калі ня ўдалася захапіць ТБШ нац.-фашысты напалі на новую выдумку: стварылі новую арганізацыю пад падобную назву, а менавіта—ТБА. Думаюць сабе: сяляне і моладзь не зразумеюць, не прыкмецяць, падумаюць, што гэта такая-ж арганізацыя як ТБШ і ўдасца так лавіць новых сабе «прыхільнікаў».

Дрэнны справы нац.-фашыстаў, калі прымушаны прыбегаць да гэткіх «штучак». Але небясьпека ад іх вялікая, бо там, дзе староста і паліцыя зачыняюць гурткі ТБШ, там яны прыходзяць падмяніць на ТБА.

Працоўныя масы і моладзь праганяць будуць нац.-фашыстаў, нават калі тыя прыкроюць сабе новай ашуканчай шыльдай. Станем у абарону ТБШ перад тэрорам і фашызацыяй, перад адкрытымі і замаскіраванымі фашыстамі, кожнага агента ТБА праганяць вон з вёскі.

## НОВЫЯ АРЫШТЫ БЕЛАРУСКІХ ВУЧНЯЎ У НОВАГРУДЗКАЙ ГІМНАЗІІ.

Нядаўна польскі акупацыйны ўрад зачыніў апошнія беларускія гімназіі, дзесяткі вучняў арыштаваны. Пры дапамозе нацыянал-фашыстаў выкінулі шмат вучняў на вуліцу і замест беларускай гімназіі арганізавалі ў Вільні і Навагрудку «беларускія філіі» пры польскіх дзяржаўных гімназіях, вучні называюць гэта—беларускімі фігамі. Думалі акупанты і іх памоцнікі, што парадак і супакой ужо маецца. І вось на гэтых днях, пішуць буржуазныя газэты, паліцыя арыштавала ў Навагрудку 5 вучняў і 2 вучаніц з беларускай філіі.

Гэты арышт паказвае, што беларуская моладзь далей змагаецца супроць палёнізацыі, супроць нацыянальнага ўціску. Працоўная моладзь усяго краю ў адказ на новыя арышты ўзмоцніць барацьбу супроць акупацыйнага тэрару, за школу на рофднай мове.

## ПАН МІНІСТР ЕНДЖЭЕВІЧ І ПАН ПАСОЛ ЯРЭМІЧ

На апошняй сэсіі сойму пан міністар асьветы Енджэевіч гаварыў:

**«У школьніцтве народных меншасьцяў будуць ставіць вымаганьне ня толькі вонкавай лояльнасьці, але такжа пазытыўных адносін да польскай дзяржаўнасьці, а тыя школы, у якіх гэтых пазытыўных адносін ня будзе мусяць адчуць у прыкры спосаб гэтую недастаткч».**

Такім чынам пан міністар абяцае новую хвалю нацыянальнага ўціску, узмоцніць ражым палёнізацыі. На гэта нацыянал-фашыст з БХД пан пасол Ярэміч у тым-жа сойме яму адказвае:

**«Цяпер наша моладзь вандруе праз зялёную граніцу і наш інтэлігент выхоўваецца ў саветах, але які ён вернецца. Пэўна-ж ня будзе выхаваны ў такім духу, у якім жадае сабе пан міністар».**

Шкада нацыянал-фашысту, што беларуская моладзь ня будзе выхавана ў такім духу, як жадае гэтага міністар. Палохае Ярэміч, што сярод беларускай моладзі расьце ўсё больш сымпатыя да СССР і БССР, дзе адчынены ўсе школы, унівэрсытэты для беларускіх працоўных на беларускай мове. Хоча Ярэміч выхаваць моладзь у антысавецкім духу, як і пан міністар, толькі іншымі мэтадамі, больш прыстасавацца, каб лепей утрымаць моладзь пры панаваньні буржуазіі.

Тая-ж газэта «Беларуск. Крыніца» піша: «Адарвецца ад Расеі Украіна, адарвецца і Беларусь». Цкаваньне, вайна супроць СССР, — вось што аб'яднае і пана Ярэміча і інш. нацыянал-фашыстаў і пана міністра, адрозьніваюцца яны ў спосабах яе правядзеньня.

## ПРАГАНЯЦЬ ПАЛІЦЫЮ З ВЕЧАРЫНАК.

**У нас у Слонімшчыне па вёсках паліцыя выдала распараджэньне, што моладзь, якая жадае наладзіць забаву, вечарыны і т. п. павінна паведаміць аб гэтым на пастарунак паліцыі і атрымаць дазвол паліцыі альбо старасты, пры чым абавязкова на такіх забавах прысутнічае паліцыя. Паліцыя не дапускае, каб на вечарынах мы чыталі газэты, гутарылі паміж сабой аб нашым становішчы і голадзе, аб тым што рабіць, як змагацца, каб выйсьці з такога становішча.**

**У нашых вёсках «Стралец» і «Кулка Млодзежы Вейскей і нац. фашыстоўскія арганізацыі свабодна ладзяць забавы, музыку, спэктаклі для таго, каб ашукваць, палёнізаваць моладзь. А для нас, калі моладзь у вёсцы бяз акупанцкіх апекунаў хоча сабрацца, зараз-жа новыя забароны і распараджэньні.**

**Мы, вядома, з гэтым распараджэньнем ня лічымся і не паведамляем паліцыі.**

**Не паддазімся тэрору акупантаў. Паліцыянтаў прагонім з нашых вечарынак.**

**Малады.**

## ПРЭЧ НАЦЫЯНАЛ-ФАШЫСТАЎ — АГЕНТАЎ АКУПАЦЫІ!

